


*Грамадска-палітычная газета для жыхароў Бялыніцкага, Круглянскага і Шклоўскага раёнаў*

# Рэгіён

ЖНІВЕНЬ 2014 г. № 7 (48)

## НАВІНЫ РЭГІЁНА

**В наступающем учебном году в Могилевской области будет закрыто 18 учреждений образования, в основном это сельские школы.**

В числе 18 закрывающихся учебных заведений в сельских районах Могилевщины пять учебно-производственных комбинатов. Дело в том, что с их функциями успешно справляются учреждения профтехобразования, а потому такая категория учреждений образования, как УПК, перестает существовать.

**Новое здание Центра коррекционно-развивающего обучения и реабилитации открыто в Шклове.**

Учреждение рассчитано на 108 воспитанников особенностями психо-физического развития. При этом находиться в Центре смогут не только ребята из шклова, но и всего района. Новое здание оборудовано всем необходимым для комфортного нахождения детей и подростков.

**В Круглянском районе откроют экотуркомплекс «Николаевские пруды». Первая его очередь начнет функционировать уже в августе.**

В состав туристического комплекса, построенного возле деревни Лысковщина Круглянского района, входят две гостиницы, ресторан национальной кухни и Дом-музей Николая Неврева – великого русского художника, передвижника, последние годы жизни которого прошли в деревне Лысковщина. Там же он и похоронен.

**На территории Белыничского района** за шесть месяцев 2014 года ГБЭП выявлено шесть экономических преступлений.

# БУДЗЕМ З ХЛЕБАМ?

**У Беларусі ў гэтым годзе будзе сабраны вялікі ўраджай збожжа. Тое, што ён пераўзыйдзе ўзровень мінулага 2013 года, зразумела ўжо зараз, хоць жніво яшчэ не скончылася. Аднак ці дапаможа гэты добры ўраджай сельгаспрадпрыемствам нашага рэгіёна разлічыцца з шматмільённымі даўгамі і пачаць плаціць годныя заробкі сваім працаўнікам – вялікае пытанне.**




Аграрыі Магілёўскай вобласці ўжо зараз намалацілі больш за 1,2 мільёны тон збожжа, а ў лепшым раёне нашага рэгіёна – Шклоўскім - намалот склаў больш за 100 тысяч тон. Добры ўраджай збожжавых вырас і ў двух іншых раёнах рэгіёна – Бялыніцкім і Круглянскім . Пакуль ураджайнасць збожжавых у Магілёўскай вобласці складае 39,1 ц/га супраць 37,2 ц/га ў мінулым годзе.

Безумоўна, паказчыкі вельмі добрыя, тым больш што зерня ўбіраць яшчэ хапае і агульны намалот будзе павялічвацца. Аднак мяне, як і многіх простых вяскоўцаў, хвалюе іншае пытанне – ці дазволіць багаты ўраджай зерня хоць крыху палепшыць эканамічныя паказчыкі большасці сельгаспрадпрыемстваў рэгіёна і ці здолеюць яны выплочваць нармальныя заробкі сваім працаўнікам?

І тут адназначнага адказу якраз няма. Калі ў “прэзідэнцкім” Шклоўскім раёне, куды ўкладваецца процьма грошай з дзяржбюджэту, мясцовыя гаспадаркі яшчэ змогуць існаваць большменш нармальна, атрымліваючы прыбатак ад продажу сваёй прадукцыі, то ў Бялыніцкім і Круглянскім раёне сітуацыя нашмат горшая.

У Бялыніцкім раёне стабільна дэманструе добрыя вынікі і забяспечвае прыбытковую працу толькі СВК “Калгас “Радзіма”, якім вось ужо на працягу шмат гадоў кіруе заслужаны работнік сельскай гаспадаркі краіны Аляксандр Лапацентаў. Не сумняваюся, што і ў гэтым годзе ўсё ў “Радзіме” будзе добра і з ураджаем зерня, і з аплатай працы сваіх працаўнікоў.

*(Працяг на стар. 7)*

## У МАГІЛЁЎСКАЙ ВОБЛАСЦІ ПАБОЛЕЛА АЛЬТЭРНАТЫЎНЫХ КРЫНІЦ ІНФАРМАЦЫІ

**На Магілёўшчыне напрыканцы ліпеня аднавілі свой выхад шэраг незалежных маланакладных газет і інфармацыйных бюлютэняў .**




Пасля больш чым гадавога перапынку зноў пачала выдавацца газета “Магілёўскі Выбар”. Выданне пазіцыянуе сябе як абласная дэмакратычная трыбуна, у якой сваё асабістае меркаванне па розных пытаннях можа выказаць любы неабыякавы жыхар Магілёўскай вобласці. У мінулым годзе журналісты менавіта гэтага выдання з дапамогай праваабаронцаў здолелі даказаць у судзе, што распаўсюд маланакладных выданняў не супярэчыць дзеючаму заканадаўству Рэспублікі Беларусь.

Таксама пасля перапынку аднавілі свой выхад маланакладныя газеты “Клімавіцкая інфа-панарама”, “Паходня”, “Шклоў-інфо”, якія распаўсюджваюцца адпаведна на тэрыторыі Клімавіцкага, Бялыніцкага і Шклоўскага раёнаў Магілёўскай вобласці.

Усе гэтыя газеты выдаюцца накладам 299 асобнікаў і распаўсюджваюцца бясплатна, дзякуючы гэтаму ім не патрабуецца дзяржаўная рэгістрацыя.

Неабходна адзначыць, што ў Магілёўскай вобласці існуе не вельмі шмат друкаваных крыніц інфармацыі, якія даюць альтэрнатыўны пункт гледжання на падзеі, якія адбываюцца ў рэгіёне і нашай краіне. Між тым далёка не ўсе людзі ў рэгіёнах карыстаюцца інтэрнэтам, наадварот, колькасць яго карыстальнікаў за мінулы год у Магілёўскай вобласці нават знізілася. Згодна дадзеных, прадстаўленых генеральным дырэктарам партала tut.by Александрам Чэканам на канферэнцыі “Дзелавы інтэрнэт”, якая праходзіла ў Магілёве ў сакавіку гэтага года, у снежні 2013 года ў Магілёўскай вобласці інтэрнэтам карысталіся на 11% менш, чым у снежні 2012 года.

Адной з асноўных тэм, якая будзе асвятляцца ў незалежных выданнях, стане тэма карупцыі ў дзяржаўных установах, арганізацыях і на прадпрыемствах Магілёўскай вобласці, а таксама інфармаванне насельніцтва рэгіёнаў аб негатыўных працэсах, якія адбываюцца ў нашай краіне пад выглядам “рэфармавання” сельскай гаспадаркі.

У газеце “Паходня”, якая выдаецца ў Бялыніцкім раёне, традыцыйна змяшчаецца шмат матэрыялаў пра парушэнне правоў працоўных, артыкулаў праваабарончай тэматыкі і інфармацыі пра сацыяльна-эканамічны стан рэгіёна.

***Барыс Вырвіч***

## Убийство в Шклове

3 августа Шкловским районным отделом Следственного комитета возбуждено уголовное д ело по ст. 139 ч. 1 УК (Убийство) в отношении жителя г. Витебска, 1967 г.р., который 2 августа вблизи дома по ул. Колхозной г. Шклова, после совместного распития спиртных напитков, в ссоре, причинил телесные повреждения различной степени тяжести жителю г. Минска, 1967 г.р., от которых последний скончался на месте.

## Угон в Круглянском районе

23 июля с пастбища вблизи д. Дрозды Круглянского района у неработающего односельчанина, 1961 г.р. угнан скутер «Хорс-Моторс». ОУР установлено, что преступление совершил неработающий житель д. Пригани, 1991 г.р. Скутер в техисправном состоянии возвращен владельцу. 30 июля районным отделом Следственного комитета возбуждено уголовное дело по ст. 214 ч. 1 УК (Угон транспортного средства).

## “КОМСОМОЛЬСКАЯ ПРАВДА” ВСПОМНИЛА ПРО БЕЛЫНИЧСКУЮ ЗНАХАРКУ

**Газета “Комсомольская правда в Беларуси” опубликовала статью о бабе Федоре, где ненавязчиво прорекламировала воду и глину с её огорода.**

Имя целительницы Федоры Конюховой в свое время гремело на весь Советский Союз.

- Раньше по 20 - 30 машин приезжало каждый день, теперь меньше. Стара уже стала Федора, совсем мало сил у нее осталось, но до сих пор люди едут отовсюду, и всех она принимает, - рассказывают «Комсомольской правде в Беларуси» соседки.

Чтобы разместить всех желающих, Федора Даниловна построила огромный двухэтажный дом. Сама живет в небольшой хатке по соседству. В день моего приезда почти все комнаты в усадьбе Конюховой заняты, но сегодня баба Федора пациентов не принимает: чувствует себя не очень хорошо. Ей 88, она ничем не болеет, трезво рассуждает о жизни и здоровье, помнит по именам многих своих пациентов, но признается, что из-за возраста в последнее время очень сильно устает.

Вернувшись в Беларусь из Москвы, Федора Константиновна открыла агроусадьбу в родных Пильшичах. Плату за лечение назначает сама целительница, но если денег у людей нет, помогает им бесплатно.

- Как только ко мне подходит человек, я сразу вижу, что с ним не так, хотя сам он может и не догадываться об этом, - говорит целительница. - Одних лечу водой, других - глиной, третьих - своей энергией: вожу руками по телу - и человек поправляется.

Приезжают к Федоре в основном те, кто уже отчаялся. Говорят, что она способна вылечить все. Кому-то, чтобы выздороветь, хватает одного сеанса, другим приходится жить здесь неделями.

# АБ ПУСТЫХ “ПРАЦОЎНЫХ” ПАЕЗДКАХ

**У апошнія два месяцы Аляксандр Лукашэнка здзейсніў шэраг працоўных паездак па сельскагаспадарчых рэгіёнах краіны. 25 чэрвеня ён наведаў сельгаспрадпрыемствы Чачэрскага раёна Гомельскай вобласці, 7 ліпеня — сыраробчы завод ТАА “Бабуліна крынка” ў Бялынічах Магілёўскай вобласці, а 25 і 29 ліпеня пабываў у Мінскім раёне.**

З яго словаў, праехаў ён яшчэ па палях дзесьці на стыку Магілёўскай і Віцебскай абласцей, верагодна, пры наведванні роднай Александрыі ў час правядзення там 6 ліпеня свята “Купалля” .

Дадзеныя працоўныя паездкі кіраўніка краіны, у адрозненні ад ранейшых падобных паездак, не атрымалі такога шырокага асвятлення ў разнастайных дзяржаўных СМІ.

Пры ўсім жаданні паказаць сваю “прыць” журналісты дзяржаўных СМІ так і не змаглі прыпаднесці ў прыгожым ракурсе ні вынікі, ні эфектыўнасць гэтых паездак беларускім гледачам, слухачам і чытачам.

Бо, відаць, у сто першы раз, як заезжаная кружэлка, прагучалі яго словы аб неабходнасці навядзення парадку на зямлі, аб барацьбе з карупцыяй, аб неабходнасці паспяховага правядзення ўборачнай кампаніі зернявых, аб крэдытах для сельгаспрадпрыемстваў, аб ратацыі кадраў…

Скептычна аднесліся, як было бачна з экрана тэлевізара, і прысутныя побач з ім у паездках да патрабаванняў, выказаных у адрас Міністэрства сельскай гаспадаркі, урада, старшыняў аблвыканкамаў аб прыняцці мераў па нарошчванні да 1-га квартала 2015 года вытворчасці свініны да таго ўзроўня, які быў да ўспышкі афрыканскай чумы свіней у Беларусі.

І крыху анекдатычна прагучала ў Чачэрскім раёне прапанова кіраўніка краіны аб дырэктыўным падмацаванні неабходнасці захавання тэхналогій па вытворчасці мяса і малака.

Прагучаўшыя ж новыя прапановы Лукашэнкі, што маглі бы даць штуршок да рэфармавання сельскай гаспадарі Беларусі, відаць, так і засталіся не заўважанымі яго паплечнікамі па розных прычынах.



Так, засталося па-за ўвагай чыноўнікаў і не атрымала больш шырокага асвятленя ў журналісцкім асяродку тэма прадастаўлення сельгасвытворцам права на свабоду ў пытанні рэалізацыі сваёй прадукцыі. А таксама заява аб прадастаўленні ў якасці эксперымента права вытворцам малака ў Магілёўскай вобласці на самастойнае вызначэнне коштаў і пакупнікоў на сваю прадукцыю.

«Давайте договоримся: через неделю в Могилевской области в качестве эксперимента вводится свободное ценообразование и доступ производителя к потребителю молока», — адрэагаваў ён на зварот дырэктара “Бабулінай крынкі” аб перадачы гэтаму ТАА ўсёй сыравіннай малочнай базы вобласці. Эксперымент, па яго словах, дазволіць сельгасвытворцам свабодна і без дыктата з боку аблвыканкама вырашаць, якому перапрацоўшчыку і на якіх умовах прадаваць малако. Тут жа ён даў даручэнне Міністэрству сельскай гаспадаркі па вывучэнню гэтага вопыту на прадмет магчымага прымянення яго і ў іншых рэгіёнах.

З часу тых размоваў прайшоў ужо не адзін тыдзень, а інфармацыя аб выніках выканання чынвенствам даручэнняў кіраўнка краіны ў СМІ так і не з’явілася.

Як ужо сталася традыцыяй, беларускае чынавенства напружваецца ў такіх выпадках толькі для таго, каб падрыхтаваць для паказушнасці месца, куды будзе ляжаць шлях чарговай “працоўнай” паездкі Лукашэнкі. Усё астатняе ператвараецца ў пустую гаварыльню “на тэлевізар”.

Падобным да апошніх заяваў і даручэнняў склаўся лёс і ўсіх ранейшых яго патрабаванняў аб навядзенні парадку ў аграпрамысловым комплексе. Як, да прыкладу, аб чакаемай у бліжэйшы час маштабнай праверцы аграрнага сектару, у які за апошнія дзве з паловай пяцігодкі ўкладзена больш 50 млрд. долараў.

Заява аб маштабнай праверцы ў аграпрамысловым комплексе прагучала яшчэ 22 кастрычніка 2013 года падчас кадравых прызначэняў. З тае пары прайшло ўжо больш за дзевяць месяцаў, а праца ў гэтым накіруну нават не распачата.

У адным са сваіх ранейшых артыкулаў на гэтую тэму — “Аб мільярдах, аграгарадках і сацыяльных стандартах” ад 28 лістапада 2013 г. — я ўжо выказваў сваё меркаванне аб якасці і эфектыўнасці ўкладання фінансавых сродкаў у аграпрамысловы сектар краіны на прыкладзе ААТ

*(Працяг на стар. 4)*

# АБ ПУСТЫХ “ПРАЦОЎНЫХ” ПАЕЗДКАХ

(Працяг. Пачатак на стар. 3)

“Новая Друць” Бялыніцкага раёна Магілёўскай вобласці. І, нават, перадаў кіраўніцтву краіны прапанову працаўнікоў гэтага сельгасрадпрыемства — распачаць такую праверку з “Новай Друці”.

У час наведвання Лукашэнкам 7 ліпеня 2014 г. Бялынічаў, магілёўскае абласное кіраўніцтва непакоілася, што раптам і гэтая гаспападарка будзе ўключана ў маршрут паездкі кіраўніка краіны. І, на ўсялякі выпадак, рыхтавалася да гэтага. Уздыхнула яно з палёгкай толькі тады, калі верталет кіраўніка краіны ўзяў іншы накірунак.




Разважаючы аб праблемах у аграпрамысловым комплексе краіны, аб эфектыўнасці шматмільярдных фінансавых укладанняў дзяржавы ў гэтую галіну, сёння я імкнуся закрануць яшчэ і пытанне аб “карысці” вось такіх “працоўных” паездак для нашай дзяржавы…

Бо ў працэсах падрыхтоўкі, абслугоўвання паездак у складзе дэлегацый звычайна задзейнічаны тысячы і тысячы людзей, расходуюцца велізарныя фінансавыя сродкі. Для “світы”, для аховы, для супрацоўнікаў СМІ выдзяляеца неабходны транспарт, на які расходуюцца тоны паліва, якога так не хапае ў час уборачнай кампаніі. Для стварэння “карцінкі” у час прыезда дэлегацый, для правядзення рэпетыцый ад працы адрываюцца супрацоўнікі сельгаспрадпрыемстваў, сельскагаспадарчая тэхніка, не кажучы ўжо пра тое, што і прысутныя чыноўнікі ў такія дні не выконваюць сваіх прамых працоўных абавязкаў.

А што ж у выніку?

А ў выніку — ні адно распараджэнне, дадзенае кіраўніком краіны ў час такіх паездак, не выконваецца, досвед лепшых, “узорных” прадпрыемстваў на іншыя гаспадаркі краіны не распаўсюджваецца. Усё робіцца толькі для таго, каб стварыць прыгожую карцінку для здымак на камеру, быццам бы сельская гаспадарка развіваецца эфектыўна, а сяляне жывуць шчасліва і заможна.

Ні аднаго разу, ні з вуснаў кіраўніка краіны, ні з вуснаў яго паплечнікаў, не прагучалі словы заклапочанасці аб узроўні жыцця вяскоўцаў, аб стане сацыяльнай інфраструктуры на сяле, аб тым, як выконваюцца сацыяльныя стандарты, прыдуманыя імі ж, і чаму на сяле не жадаюць заставацца маладыя спецыялісты.

Зрабіўшы чарговае турнэ па краіне за дзяржаўны кошт, чыноўнікі раз’язджаюцца па сваіх добраўпарадкаваных прэстыжных кватэрах або загарадных дамах, тут жа забыўшыся аб мэтах такіх паездак, забыўшыся аб тым, дзеля чаго яны прызначаны на дзяржаўныя пасады. Яны жывуць сваім жыццём.

Іх не хвалюе тое, што ў чарговай вёсцы зачыняецца школа, установа культуры, паштовае аддзяленне, што вяскоўцам прыходзіцца ездзіць за сваім заробкам або пенсіяй за 20 км ад месца пражывання, або выстойваць гадзінныя чэргі.

Іх нават не цікавіць, што ў апошнія гады ў сельскіх населеных пунктах усё часцей здараюцца перабоі з забяспячэннем электраэнергіяй. Як, да прыкладу, у тым жа Бялыніцкім раёне, які наведаў Лукашэнка 7 ліпеня, за два летніх месяцы 2014 года кожны тыдзень здараліся адключэнні ў шматлікіх населеных пунктах раёна. Вяскоўцы кожны тыдзень гадзінамі заставаліся без электрычнага асвятлення, не маглі карыстацца халадзільнікамі, тэлевізарамі… і вярталіся да дзедаўскага спосабу асвятлення свайго жылля — лучынамі. Без элетрычнасці заставаліся і вытворчыя аб’екты.

Мясцовым энэргетыкам перашкаджаюць забяспечыць пастаянную падачу электраэнергіі то вецер, то дождж, то высокая тэмпература паветра. І гэта ўлетку. А што ж будзе ўзімку?

І гэта праблема не толькі Бялыніцкага раёна.

У час заканчэння працы над дадзеным артыкулам, даведаўшыся са СМІ, што кіраўнік краіны зноўку, 1 жніўня, наведае Мінскі раён, я паспрабаваў спрагназаваць — аб чым будзе ісці гаворка ў час гэтай паездкі… І ўгадаў. У 102-гі раз размовы зноўку абмежаваліся пытаннямі аб навядзенні парадку ў выкарыстанні зямлі і неабходнасці давядзення якасці камбайнаў да ўзроўню лепшых замежных аналагаў.

Нажаль, зноўку забыліся аб тых, хто будзе працаваць на

(Заканчэнне на стар. 5)

# МИНСК СКРЫВАЕТ ИНФОРМАЦИЮ ОБ АФРИКАНСКОЙ ЧУМЕ СВИНЕЙ?

**Все страны, граничащие с Беларусью, заявили об обнаружении в 2014 году очагов АЧС на их территории. Беларусь считает, что ей удалось справиться с вирусом. Так ли это, выясняла DW.**

В январе 2014 года Россия, Литва и Украина сообщили в Международное эпизоотическое бюро (OIE) о выявлении очагов африканской чумы (АЧС) свиней на их территории. Через месяц АЧС была обнаружена в Польше, а в июне соответствующий вирус у животных был найден в Латвии.

Таким образом, все страны, с которыми граничит Беларусь, с начала года заявили о неблагоприятной эпизоотической ситуации.

Однако Минск считает, что справился с вирусом и в нынешнем году не направлял в OIE сообщений об обнаружении заболеваний животных на территории Беларуси. Страна отчиталась только о том, что очаги АЧС, выявленные в прошлом году в Гродненской и Витебской областях, были успешно уничтожены. Тем не менее жители белорусских деревень говорят, что животные по-прежнему гибнут из-за АЧС.




### Карантин окончен

Карантин из-за африканской чумы свиней в Беларуси был снят в начале февраля. С этого момента министерство сельского хозяйства посчитало, что АЧС перестала угрожать сельхозпредприятиям и фермерским хозяйствам после предпринятых властями беспрецедентных мер.

Меры действительно были чрезвычайными: было предписано уничтожить всех свиней в пятикилометровых зонах вокруг свинокомплексов, где были вспышки АЧС, на подъездах к ним были выставлены шлагбаумы, а вокруг старых заборов сооружены дополнительные ограждения. Право прохода на фермы до сих пор имеет ограниченное количество людей, перед въездом на территорию весь транспорт проходит дезинфекцию.

Карантин кардинально изменил структуру ведения натурального хозяйства в деревнях, указывает кандидат экономических наук Петр Мигурский, имевший многолетний опыт работы руководителем колхоза. Большинство сельчан, говорит он, так и не смогли перестроиться на другое сельхозпроизводство, для кого-то ситуация стала просто катастрофической. Но все действия властей Мигурский считает оправданными, включая запрет на содержание свиней в частных подсобных хозяйствах на период не менее трех лет с момента выявления очага АЧС, то есть до 2016 года.

### Статистика принятых мер

Борясь с АЧС, власти закрыли фермы, где невозможно было наладить ветеринарный надзор. В основном это касается небольших хозяйств. В 2013 году прекратили работу 248 хозяйств, больше всех пострадала Минская область, где были закрыты 73 фермы.

До сих пор идет не прекращавшийся отстрел диких кабанов, особенно в радиусе 20 километров вокруг ферм и вдоль российской границы. Охотникам, добывшим трофеи, даже предлагается доплата из средств республиканского бюджета, предусмотренных для компенсации расходов во время стихийных бедствий. Если к началу 2013 года в Беларуси насчитывалось 81,5 тысяч диких кабанов, то к концу декабря их численность снизилась до 19,7 тысяч особей.

На пресс-конференции в начале года начальник отдела охотничьего хозяйства министерства лесного хозяйства Сергей Шестаков сообщал, что к 1 марта было запланировано полностью истребить популяцию дикого кабана. По последней информации,

*(Окончание на стр. 8)*

---

## АБ ПУСТЫХ “ПРАЦОЎНЫХ” ПАЕЗДКАХ

*(Заканч. Пачатак на стар. 3, 4)*

гэтай зямлі і кіраваць новымі камбайнамі.

З такімі адносінамі да вяскоўцаў праблема кадраў на сяле з кожным годам будзе толькі абвастрацца. А без кадраў не будзе і парадку на зямлі.

Можа варта задумацца над гэтым пытаннем і перастаць упустую раскатваць па краіне?

***Намеснік старшыні Партыі БНФ Рыгор Кастусёў***

# «СКАНДАЛЬНЫЙ МИНИСТР» И КАРТОННАЯ ФАБРИКА В ШКЛОВЕ

**Имя потомственного дворянина Аполлона Кривошеина хорошо известно на Могилевщине. До сих пор в Шклове помнят и ценят его вклад в развитие этого города. Так, благодаря инициативе Кривошеина в 1898 году в Шклове была построена картонная фабрика, выпускавшая в то время картон и оберточную бумагу. Сегодня сохранившееся здание фабричной конторы является памятником гражданской архитектуры с элементами стиля «модерн».**



*Аполлон Кривошеин*

Еще одним памятником, на сей раз дворцово-паркового искусства, и настоящим украшением современного Шклова по праву считается городской парк, заложенный Кривошеиным на рубеже XVIII - XIX веков. От того, старого, парка, некогда занимавшего гораздо большую площадь, сохранились три аллеи, пруд и усадьба, в которой теперь расположен Центр внешкольной работы. Жемчужина парка - белые тополя, диаметр ствола которых достигает 1,2 метра.

Шкловское имение Аполлон Кривошеин приобрел вскоре после своей скандальной отставки с поста министра путей сообщения Российской империи. Убежав от пересудов и суеты столичной жизни, все свои силы и энергию он направил на эффективное управление своими белорусскими владениями. Здесь, в Шклове, восемь лет спустя он и скончался в почете и уважении. Жизнь незадачливого экс-министра и талантливого помещика-предпринимателя оборвалась ровно 110 лет назад, 12 ноября 1902 года.

Судьба Аполлона Кривошеина, человека умного, образованного, одаренного многими деловыми и человеческими качествами, – подтверждение тому, что всяк человек хорош на своем месте, а не в свои сани, как говорят в народе, не садись.

«Чужими санями» для Аполлона Константиновича, потомка нескольких поколений русских дворян, верой и правдой служивших Отечеству, как раз и стал высокий министерский пост. Оказался он на нем совершенно случайно, неожиданно как для работников самого министерства, так и для всей чиновной России.

Чтобы понять, как такое могло случиться, следует иметь в виду, что во все время царствования Александра III неразбериха в управлении транспортным ведомством страны была невообразимая. Именно на этот период приходится череда самых скоротечных и порой скандальных назначений и отставок.

В ноябре 1888 года на должность министра путей сообщения был назначен генерал-лейтенант Герман Паукер. На этом посту он сменил близкого к великому князю Константину придворного адмирала Константина Посьета, отправленного в отставку после трагического крушения царского поезда у станции Борки 17 октября 1888 года.

Георгий Паукер, умница и эрудит, в должности министра пробыл менее пяти месяцев, поставив таким образом своеобразный рекорд. Не успев как следует войти в курс дела, он скончался от воспаления легких. Главнейшим делом его краткого управления стало согласие на передачу вопросов формирования железнодорожных тарифов из ведения министерства путей сообщения в министерство финансов, в котором специально для этих целей был создан отдельный департамент под руководством Сергея Витте.

На следующий день после кончины Паукера, 30 марта 1889 года, главой министерства был назначен Адольф фон Гюббенет. В отличие предшественника у него сложились более чем напряженные отношения с главой финансового ведомства Вышнеградским - и практически все время пребывания Гюббенета на посту министра можно охарактеризовать как непрерывную войну со своим оппонентом. Царь недолюбливал Вышнеградского, однако этим своим преимуществом Гюббенет воспользоваться не смог: слишком некомпетентным оказался он в делах собственного ведомства. Итог – отставка.

Преемником Гюббенета стал Сергей Витте, в то время еще совершенный новичок в петербургском правительственном мире. К выполнению новых обязанностей он приступил с целой программой мероприятий по усовершенствованию системы путей сообщения. Однако осуществить свои намерения не успел. Уже через шесть месяцев, в августе 1892-го, Витте был назначен министром финансов на место тяжело заболевшего Вышнеградского.

Вот тогда-то освободившееся место главы министерства путей сообщения неожиданно для всех занял… гофмейстер Двора Его Императорского Величества Аполлон Кривошеин. Увы, в новой должности управленец дворцовым хозяйством работал столь неуспешно, что через два года был отправлен в отставку.

На освободившееся место тут же поставили князя Михаила Хилкова. В отличие от Кривошеина

*(Окончание на стр. 7)*

# «СКАНДАЛЬНЫЙ МИНИСТР» И КАРТОННАЯ ФАБРИКА В ШКЛОВЕ

*(Оконч. Начало на стр. 6)*

Хилков сумел организовать работу министерства таким образом, что за десять лет протяженность железных дорог России выросла с 35 до 60 тыс. км, а их грузооборот удвоился. Ежегодно возводилось около 2,5 тыс. км железнодорожных путей (таких темпов не было даже в советский период) и около 500 км автомобильных дорог.

С отставкой Кривошеина и назначением Хилкова завершилась кадровая чехарда в руководстве одного из ключевых министерств империи, продолжавшаяся на протяжении всего царствования Александра III. Правда, сняли Кривошеина, а точнее выперли за злоупотребления уже при Николае II.

В чем же провинился Аполлон Константинович? По словам Витте, это был «умный, деловой человек, но железнодорожного дела не знал», сам «министерством не занимался», отдав все вопросы на откуп подчиненным, при этом охотно «расходовал казенные деньги на устройство роскоши в своем помещении». Так, указывал далее Витте, «помещение министра путей сообщения и без того почти царское» Кривошеин расширил за счет «соседней квартиры, которая принадлежала его товарищу», устроив себе в нем домашнюю церковь, которую, включая священника, содержал за счет казны.

В свою очередь государственный контролер Тертий Филиппов в докладе Николаю II утверждал, что Аполлон Кривошеин наладил поставки шпал для железнодорожного строительства из своих собственных имений по «льготным» расценкам и что одна из железнодорожных веток якобы была спроектирована таким образом, что должна была пройти через его владения (разумеется, с выплатой соответствующих компенсаций).

Многие факты нарушений, представленные в отчетах ревизоров, выглядели неубедительно, бездоказательно и были сильно утрированы. Оно и понятно: чиновники, найдя, как им казалось, достойный повод показать свою кристальную честность и служебное рвение новому императору, из кожи вон лезли, чтобы порадеть за интересы Отечества. И Аполлон Кривошеин, не имея достаточного покровительства при дворе, был вынужден покинуть свой пост.

На этом его государственная карьера завершилась. И началась жизнь совсем другая, провинциальная, но от того не менее активная. Именно тут, на Могилевщине, наиболее полно раскрылись его таланты предпринимателя и помещика-управленца. А дела и начинания, не столь громкие, но весьма полезные обывателю, обеспечили Аполлону Кривошеину добрую память в людских сердцах.

***Иван Григорьев, interfax.by***

# БУДЗЕМ З ХЛЕБАМ?

*(Працяг. Пачатак на стар. 1)*

Што ж датычыцца іншых гаспадарак Бялыніцкага раёна, то тут сітуацыя нашмат горшая. Нават хвалёнае ААТ “Новая Друць”, у мадэрнізацыю якога дзяржавай укладзены шалёныя сродкі, фактычна трымаецца на плаву толькі за кошт рэфінансавання мінулых даўгоў, гаспадарка закрэдытавана цалкам. Пра што казаць, калі практычна уся атрыманая выручка ад вырашчанай у гэтым годзе прадукцыі адразу ж пойдзе на аплату даўгоў за ўжо спажытыя матэрыяльныя рэсурсы. І добры ўраджай збожжа ў гэтым годзе ніякім чынам не дапаможа разлічыцца з даўгамі, тым больш, складваецца ўражанне, што аб нейкай эканоміі рэсурсаў у “Новай Друці” ніхто не задумваецца – толькі на ўтрыманне суперраздутага штату спецыялістаў траціцца шалёныя грошы.

Пра іншыя сельгаспрадпрыемствы Бялынiччыны нават гаварыць не хочацца – СВК “Лебедзянка” дыхае на ладан, выратаваць яго ўжо нічога не можа. Чым гаспадарцы дапаможа мяркуемае далучэння да не менш жабрацкага ААТ “Бялыніцкага райаграпрамтэхзабеспячэння”, таксама не зразумела – проста гэта дазволіць абодвум суб’ектам гаспадарання працягнуць агонію і прамучыцца яшчэ некалькі год за кошт адтэрміноўкі выплат па крэдытах. ААТ “Падзевічы” даўно ўжо фактычны банкрот – нават прэм’ер-міністр Міхаіл Мясніковіч адзначыў, што ў гэтай бялыніцкай гаспадарцы фінансавая запазычанасць у пяць разоў перавышае атрыманую за год выручку. І ў іншых гаспадарках Бялыніцкага раёна – СВК “Ількавічы” і ААТ “Бялынічы” – сітуацыя не нашмат лепшая.



У Круглянскім раёне сітуацыя складваецца практычна аналагічная. Ёсць яўны лідар – ААТ “ААБ “Агра-Цяцерына”, куды пастаянна ўклавае грошы “Беларусбанк”, і дзе пакуль ёсць і адпаведныя эканамічныя паказчыкі, і добрыя заробкі працаўнікоў. І ёсць іншыя гаспадаркі Круглянскага раёна, якія літаральна выжываюць. Нават знакаміты раней СВК “Калгас “Комсенічы”

*(Заканчэнне на стар. 8)*

# МИНСК СКРЫВАЕТ ИНФОРМАЦИЮ ОБ АФРИКАНСКОЙ ЧУМЕ СВИНЕЙ?

*(Оконч. Начало на стр. 5)*

в апреле-июне охотники уничтожили еще 6412 животных.

Прошло техническое переоснащение ветеринарных служб, которые непосредственно делают анализы проб, взятых у животных. Областные лаборатории и Белорусский государственный ветеринарный центр были обеспечены приспособлениями для проведения ПЦР-диагностики (полимеразная цепная реакция), у них появились несколько сотен спецавтомобилей и дезинфекционных установок, а также установки для тепловой ликвидации биоматериала. За 6 месяцев 2014 года они исследовали 10571 пробу диких кабанов, свиней в личных хозяйствах граждан, свинокомплексах и на мясокомбинатах. Результат на АЧС во всех случаях был отрицательный.

## Реальные истории

Однако белорусские ленты новостей в июле нынешнего года опять запестрели сообщениями о новом падеже свиней. Но власти не хотят признавать, что это АЧС, говорит журналист и издатель небольшой сельской газеты Борис Вырвич. В конфликтных ситуациях сельчане прежде всего идут к нему, чтобы через независимые СМИ озвучить информацию о проблемах. Благодаря этому стало известно о падеже свиней в деревнях Белыничского района Могилевской области.

В начале июля после падежа двух взрослых свиней в личном хозяйстве одного из поселков туда приехала ветслужба, работники которой уничтожили и закопали все поголовье имеющихся в хозяйстве свиней, а также провели комплексную дезинфекцию всех помещений. По неофициальной информации, полученной от одного из ветеринарных специалистов, была обнаружена АЧС, рассказывает Вырвич. Официально же сотрудники Белыничской районной ветеринарной станции утверждают, что случаев африканской чумы свиней в Могилевской области не зафиксировано.

Ветврачи говорят, что животные могли пасть, например, от классической чумы свиней. Признаки заболевания АЧС действительно можно спутать с рожей, сальмонеллезом и еще десятком болезней, соглашается житель деревни Лебедянка Валерий Вусик, проработавший в местном колхозе главным ветврачом 36 лет. Но тем не менее, утверждает он, в регионе обнаружена именно АЧС.

## Требования остаются

Вусик сам поставил такой диагноз погибшим животным на подворьях своих соседей. Симптомы АЧС были слишком уж явными, но если объявить карантин, объясняет Вусик, то белорусское мясо нельзя будет продавать за границу, карантинные мероприятия обходятся государству дорого, поэтому власти, по его выражению, просто отказываются признавать АЧС.



Департамент ветеринарного и продовольственного надзора Минсельхозпрода отреагировал на шумиху в прессе сообщением, что падеж свиней в Белыничском районе Могилевской области, Щучинском и Островецком районах Гродненской области, Брагинском и Ветковском районах Гомельской области не превышает допустимую норму.

В то же время требование сократить поголовье свиней, основанное на постановлении Совмина "О дополнительных мерах по ликвидации и недопущению распространения африканской чумы свиней и других опасных заболеваний", сохраняется.

***Александр Бураков, DW.DE***

# БУДЗЕМ З ХЛЕБАМ?

*(Заканч. Пачатак на стар 1, 7)*

знаходзіцца зараз у глыбокім заняпадзе, у гаспадарцы пастаянна змяняюцца кіраўнікі, аднак якога-небудзь паляпшэння сітуацыі ў лепшы бок не назіраецца.

Як адзначыў старшыня праўлення ААТ "Белаграпрамбанк" Уладзімір Падкавыраў, запазычанасць беларускіх сельгасвытворцаў перад банкаўскай сістэмай складае 4 трыльёны рублёў. З іх сельгаспрадпрыемствы толькі "Белаграпрамбанку" завінавацілі 2,4 трыльёны беларускіх рублёў. Агульная ж пазыковая нагрузка сельгаспрадпрыемстваў нашай краіны складае больш за 64 трыльёны рублёў…

Так што атрыманы ў гэтым годзе добры ўраджай збожжа ніякім чынам не дапаможа беларускім сельгасвытворцам хоць крыху палепшыць сваё эканамічнае становішча, бо даўгоў яны накапілі процьму. Атрыманай ад рэалізацыі збожжа выручкі хопіць толькі на аплату нязначнай часткі атрыманых раней крэдытаў, на развіццё гаспадарак грошай ужо не застанецца, як і на падвышэнне аплаты працы іх працаўнікам.

***Іван Барысаў***

Рэгіён

Грамадска-палітычная газета.
Выдаецца на беларускай і рускай мовах, распаўсюджваецца бясплатна. Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі.

Надрукавана на ўласным абсталяванні па адрасе: 213173, Магілёўская вобл., Бялыніцкі р-н, аг-к Вялікая Машчаніца, вул. Савецкая, д. 4. Тэл. 8 (02232) 37-365. Наклад 299 асобнікаў. Выдавец Вырвіч Барыс Іванавіч. Падпісана ў друк 06.08.2014 г. у 15-00.